# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1927.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 4.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая 39.

Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.





| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | № 8 | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | |
| --- | --- | --- | --- |
| **ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4** «МАЛАНКА» | **15-га КРАСАВІКА 1927 г.** | на 1 год 8 злот.<br>„ паўгода 4 „<br>„ тры мес. 2 „<br>„ адзін м. 1 „ | За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт. |


# На прадвесьні выбараў.




Вясна. У паветры выбарамі пахне. З чужых краёў лятуць „буслы“ шукаць пажывы. А беларус усё працуе і працуе...




# ВЯСНА ІДЗЕ...

Усьмяхнулася сонца, дыхнула цяплом,
Міла, гожа. — Вясною павеяла.
Зацьвіло, ажыло ўсе да шчасьця кругом,
Сон цяжкі, сон зімовы рассеяла.
Гай ажыў. Гай шуміць. Колькі-ж птуша-
Раньне яснае сьпевам вітаюць! [чак там
Што-ж нясеш ты, вясна, маім бедным
І якія іх лёсы чакаюць?.. [братом

Плуг іржавы абцёр селянін-бедачок,
Уткнуў ў зямлю: ану, дай-жа Божа!
Той падатак, бы гром, стаіць ў горле калом,—
Уся уцеха, надзея на збожа...

Колькі-ж шчасьця ў душу льецца з
шэптам вясны!
Граюць струны жыцьця пераліўныя,
Родзяць міла яны ў душы кожнага сны,
Залатыя сны, ясныя, дзіўныя...

Так дзяўчынка-краса жаніха сабе сьніць,
Ды такога-ж бімбоса прыгожага!
А там шлюб... А там... эх, і душа забаліць,—
Як жа тут ня любіць сьвету божага!
Там паненкам другім з падарункам сваім
Сьніцца бусел, ляціць жаўтапяты...
Потым смутак ліхі, горкіх сьлёз ручайкі...
Эх вясна залатая, вясна ты!

*Сойм пакорных паслоў* сабярэцца ізноў
(Даруй, Божа, грахі). Вось цялё дзе! —
Пакрычыць, пашуміць, нагавора шмат слоў,
Паківаюць зноў пальцамі ў боце.
І жыцьцё-ж бедака! — зноў ад пана
Адтрымае мяшалкай па нечым... [„дзядка“
А далёй? Ці-ж зганеш! Можа выбары
зноў?

А моʻ йшчэ на гадок гэтых бедных паслоў
Так пакінуць?..—Прызнацца-ж да рэчы—
(То ня йлжа і ня чмуць), што іх бедных
Мурашкі за „мандацік“ па целе... [дзяруць
А ты, брат беларус, чакай новых пакус:
Ужо крукі да цябе паляцелі...
Усіх ня схопіш на лік, тут — і „пяст“
Вызваленец ды іншая зграя; [і „індык“,
Тут пра шчасьцьце, пра рай — адно
толькі слухай;
Груганьё табе зноў засьпявае ..

Паны з тоўстай машной пруць на дачу вясной,
Каб погрэць сваё сала на сонцы.
Чарвячкі пад карой — загіжалі бы рой,
Ажыло ўсе у роднай старонцы.
Зноў вясна! Колькі сілы, надзеі ў грудзёх:
Моʻ прыдзе хоць палёгка якая?..
Моʻ амністыі гук разьнясецца з вясной?
Гэй, вясна! скажы, што нас чакае?...
Вось ўжо восьмы разок, ты нам кажаш, вясна:
„Жджы Пятра, беларус — зьясі сыра!“
А тут ў хатку братка-мужыка-бедака
Дуе холад жыцьця з усіх дзіраў.

Беларускі-ж пясьняр дык найлепей жыве,
Яму летам — вясной адны песьні:
Не бядуй, мой браток, што пусты
жыватак, —
Салаўем залівайся, хоць трэсьні!
У думцы сьмела малюй чары-мары жыцьця,
Сны сьвятыя сьні дзіўнаю ночкай, —
І ўсе гора прайдзе!.. Паліцэйскі прыдзе,
А там... э, лепш закончу я точкай...

**Міхась Васілёк.**




# Чырвоныя вялікодныя яечкі для беларусаў.

## СЬВЕЖЫЯ НАВІНЫ.

× Кажуць, што вядомы беларускі хірамант-графалёг Аваднеўскі варажыў нашаму рэдактару, што, пачынаючы ад гэтага нумару, „Маланка“ больш конфіскавацца ня будзе. Аднак, рэдактар наш ня зусім у гэтым пэўны: — уначы сьніўся яму прэс да выціска765ньня сыраў. А хто бачыў гэтакі сон, дык, паводле соньніка, будзе мець дачыненьне з „прэсавым аддзелам“

× Кажуць, што ў хуткім часе для рэдактараў беларускіх часопісаў (не „казённых“) будуць адчынены курсы. На курсах будуць выкладацца наступныя прадметы:

а) „*уставы прэсовэ*“,

b) найстрашнейшыя артыкулы з „*Кодэксу Карнэго*“

с) „*пшэпісы для вензнюв*“ і шмат іншых карысных рэчаў.

× Кажуць, што беларускі „вынаходца“ Perpetum-Mobile мастак Бай-Ярын сконстраваў новую друкарскую машыну, якая адзначаецца тым, што, калі ўлажыць ў машыну чыстую паперу, выходзіць гатовая сконфіскаваная газэта.

× Кажуць, што ў абозе беларускіх „хадэкаў“ сёлетнія вялікодныя сьвяты будуць сьвяткавацца надзвычай урачыста, а таксама будзе адслужана „*дзэнкчынннэ*“ набажэнства з прычыны перадчаснай сьмерці „Narodnaha Zw..nu“.

× Кажуць, што тутэйшае беларускае грамадзянства маніцца падаць адпаведным уладам колектыўную просьбу аб скасаваньні „*мейскага*“ кіна з прычыны таго, што туды найбольш ходзіць беларуская моладзь, замест хадзіць на лекцыі ў Беларускі Народны Дом.

× Кажуць, што, калі скончацца друкаваныя у „Беларускім Дні“ — „Успаміны з Пэрсыі“, — дык пачнуцца друкавацца „Успаміны з акцызы“ — перажываньні галоўнага рэдактара памянёнай газэты.

## РАСТУЦЬ, АЛЕ...

Малы Яначка быў ў гасьцях у цёткі. Частавала яна яго квашанымі гуркамі, якія яму вельмі смакавалі.

— А ці ў вашым гародзе растуць гуркі? — пытае цётка.

— Растуць, але ня квашаныя.

*З.*

## У ШКОЛЕ.

Вясковы настаўнік пытаецца ў малога вучня, як ён завецца. Той ня ведае, як адказаць.

— Ну як матка заве твайго бацьку на вячэру?

— Сідар, хадзі есьці.

— Ну а як бацька матку?

— Марыля, крупы давай.

— Ну а як цябе?

— Мяне ня трэба зваць есьці: я заўсёды першы пры місе.

## У СУДЗЕ.

Адвакат па-ціху пытаецца ў абвінавачанага:

— Мне трэба ведаць для орыентацыі, ці вы запраўды вінаваты ў гэтай справе, ці не?

— А што-ж вы, пане абаронца, лічыце мяне за дурня, ці што? Нашто-ж бы я вам дьзвесьце злотых плаціў, каб ня быў вінаваты!

## МАЕ ДОБРЫ НЮХ.

— Вось дзіва! Гэты конь хацеў мяне ўкусіць за галаву.

— Мае добры нюх: пачуў, мусіць, што ў цябе ў галаве сена.

## ПАМІЖ ДЗЕЦЬМІ.

— Матулька, ці я магу з Юркам забаўляцца ў тату і маму?

— Добра, дзетачкі, толькі памятайце, ня кідайце на сябе талеркамі.

Крапіва.

## Валакіта.

(*З коопэрацыйнай практыкі ў адным польскім банку*).

Раз да вечара ад ранку
Прастаяў я ў адным банку,
А назаўтра ад зары
Да тэй самай зноў пары
І за справай невялікай —
Трохзлатоваю пазыкай
(Атрымаць яе хацелі
Для малочнае арцелі).
На пазаўтра, як я ўстаў,
Увесь горад аблятаў,
Зьбіў падноскі, зьбіў абцасы
Ды патраціў чорт-што часу,
А ўжо што зглуміў паперы
Дык бяз ліку і бяз меры:
Дзесяць копіяў уставаў,
Пяць балянсаў, сем заяваў,
Ўсіх сяброў арцелі сьпісы,
Мо' з чатыры каштарысы,
Сем выняткаў з пратаколу,
Што прашу я па дазволу,
Працы плян ды справаздача
І... паўнейшая няўдача.
А чаму? — ды бач ня далі —
Ім прадставіць загадалі
Аб арцелі акт дасьледчы,
Я-ж ня меў з сабой тэй рэчы
І дастаць ня меў надзеі...
„Абрамоты! Ліхадзеі!
Каб вас чорт пабраў пісакаў!“
Крыкнуў я дый сам заплакаў,
Рукавом патом уцёрся
Ды пяшком дамоў папёрся.
Ну і вось — цяпер я дома,
З якім вынікам — вядома:
Грошай страціў я ня меру
На харчы і на кватэру,
Яшчэ болей на паперу,
Атрымаў-жа дулю-бэру.

Валакіта! ты — стварэньне
Папяровае;
Бязумоўна ты, яўленьне
Нездаровае.
Калі-ж прыдзе да нас доля
Тая новая,
Што ня ўбачу цябе болей
Ва ўстанове я?

# Перад „Першым мая“.

Соцыялісты з „П. П. С.“ пастанавілі ня лучыцца з „незалежнымі соцыялістамі“ і сьвята „Першага мая“ сьвяткаваць асобна.

(*З газэт*).




**Польскі „соцыяліст“ з „П. П. С.“ да жонкі:**

— На, Марыся, залатай гэтую „шмату“ (ганучу). Хутка першага мая, дык і яна прыдасца, а пасьля зноў можаш закінуць яе ў запечак на ўвесь год.

# У школе.

*Настаўніца*: Скажы мне, чаму гэта рыбы не гавораць?

*Вучань*: А няхай-жа пані настаўніца ўсадзіць галаву ў ваду і папрабуе гаварыць!

---

*Настаўнік*: Назаві мне карысную жывёлу, ад якой мы маем смачнае мяса і добрыя боты.

*Вучань*: — Бацька.

---

*Настаўнік*: Дапусьцім, што твой бацька даў матцы дваццаць злотых, а пасьля ўзяў назад пяць злотых. Які з гэтага будзе вынік?

— Страшная авантура, пане настаўнік.

## НАИШЛА КАСА НА КАМЕНЬ.

Мікола Хвастун любіў вельмі выхваляцца перад суседзямі. Аднаго разу кажа да суседа:

— Вось, братка, я цябе патрапіў-бы сто разоў на дзень прадаць.

— Нічога дзіўнага,—адказаў сусед, — відаць, я нешта варт, калі-б мяне гэтак нарасхват куплялі. Але вось цябе, дык пэўне-ж ніводнага разу не патрапіў-бы прадаць, хоць навет сто разоў вадзіў-бы на кірмаш.

*Я. М.*

---

## НАРОДНЫ ГУМАР.

# ЖОНКА.

Праўду людзі кажуць: „ня вер каню ў дарозе а жонцы дома“.

Была ў аднаго чалавека кабыла, ды такая плюгавая, лянівая, што ты яе лупі пугаю, бы цэпам, сам зморышся, а яна ледзь ногі пераставуляе. Мучыўся Рыгор, маніўся прадаць яе ганучніку, але жонка ўсе не хацела. Яна, бачыце, вельмі любіла гэтую плюгавую кабылу за тое, што на ёй і дзіця малое паедзе. Як толькі яе ваўкі ня зьелі: выжанé яе Рыгор віткаю за плот — стаіць і не зварушыцца; тагды перацягне яе віткаю Рыгор, плюне дый пойдзе да хаты. А яна пастаіць, пастрыжэ вушамі, дый пацягнецца ў хмызьняк; пасецца там увесь дзень і ў шэрай парэ прывалачэцца да дому.

Вось аднаго разу наймае нейкі жыдок колькі фурманак везьці рыбу ў мястэчка. Пагутарыў Рыгор з жонкаю, запрог сваю кабылку і паехаў у мястэчка.

Завёз ён рыбу, купіў сабе ў крамцы табакі і ўлегцы паехаў да хаты.

Толькі ён выехаў з мястэчка, аж паганяюць і суседзі. Зьлезьлі яны з вазоў; ідуць яны сабе ды люлькі кураць. Суседзі Рыгора трошкі падвыпілі: ідуць, гутараць, сьмяюцца. Пасьля паўлазілі яны на вазы і паехалі далей. Коні ў іх добрыя, — толькі сьцебанулі пугамі, як тыя паскакалі з усіх ног. Біў, біў Рыгор сваю кабылку, а яна — хоць-бы што: ідзе сабе, як вол.

— А ты ёй пад хвост, пад хвост — сьмяюцца суседзі.

Стрымалі яны каней і давай сьмяяцца з Рыгора. Пад'яжджаюць яны к карчомцы, пакінулі каней і зайшлі выпіць па чарцы.

Вось адзін з суседзяў і кажа:

— Прывяжы, Рыгор, сваю кабылу, а то яшчэ ўцячэ, а за ёй і нашы коні пабягуць.

— Эгэ, праўду кажаш, — трэба прывязаць кабылу,—кажа Грышка.

Пасьмяяліся суседзі і пайшлі ў карчму ды давай там апавядаць пра Рыгораву кабылу, як ён абéруч лупіў яе папліскаю.

Паслухаў карчмар дый кажа:

— Ну, а чаму вы не прывязалі каней?

— Можа хіба Рыгорава кабыла ўцячэ, — сьмяюцца суседзі.

— Ну, як прыйдзе гэткая хвіліна, — кажа карчмар, то і Рыгорава кабыла можа ўцячы. Хіба-ж вы ня ведаеце, што кажуць людзі?

— Не, ня ведаем.

— Людзі кажуць: „ня вер каню— ў дарозе, а жонцы — дома“.

Пасьмяяліся сяляне, выпілі па чарцы і толькі хацелі закурыць люлькі,—глядзяць, аж каней няма.

Выскачылі яны на двор, бачаць, аж коні папёрлі з усіх ног. Яны бегчы, — куды там, коні ўжо схаваліся за ўзгорак.

Вярнуліся яны ў карчму і пытаюцца ў людзей, чаго гэта пабеглі іх коні. А людзі адказваюць, што Рыгорава кабыла, як толькі ўчула панскага каня, дык за ім папёрлася, а за ёй і ўсе коні.

Павохкалі мужыкі, выпілі па чарцы і пайшлі дамоў пешкі.

Ідуць сабе ды разважаюць:

— Вось-жа, бадай яго ліханька, — кажа Рыгор,— гэта мабыць

### НЕДАРАЗУМЕНЬНЕ.

— Вы прызналіся, што ўкралі гадзіньнік?

— Не, я — нявінны...

— Як-жа гэта так? Самі-ж толькі што прызналіся.

— Не, дальбо', я нявінны.

— А хто-ж вінны? Хто ўкраў — той і вінны...

— Гэта недаразуменьне: я хацеў узяць грошы, а быў толькі гадзіньнік.

### ПАМЫЛКА.

— Сёньня я спаткаў вашу жонку.

— І што яна казала?

— Нічога.

— Гэта ня была мая жонка, бо мая жонка маўчаць ня можа.

### НА ПОШЦЕ.

**Урадовец:** Я а ні троху не сумляваюся, што гэты грашавы пераводнапрыклад належыць да вас, але згодна паштовай уставы павінен зажадаць ад вас нейкага доказу асабістасьці.

**Маладая паненка** (стыдаючыся). Калі ласка, магу вам даказаць: маю радзімы знак на левым калене.

## Як сьвяткавалі дзень 25-га сакавіка.



„Сынкі" (ў Вільні).



„Пасынкі" (ў Вронках).

Браты! Падтрымлівайце родную „МАЛАНКУ".
Пашырайце круг нашых платных падпішчыкаў!

той карчмар у такую гадзіну сказаў.

— Але, праўда, — загаварыў сусед. — Хто людзей ня слухае, той і Бога не баіцца. Не знарокжа людзі кажуць: „ня вер каню — ў дарозе, а жонцы—дома.

— Няпраўда, — падумаў Рыгор, — мая жонка верная... Падумаў, але нічога не сказаў, каб людзі не сьмяяліся.

— Цьфу! зьгінь мара, прападзі, — крыкнуў Рыгор, зачапіўшыся лапцем за корч. — Чуць не паваліўся, — і пайшоў моўчкі.

Ідуць яны ўсё, ідуць; спатыкаюць яны жабракоў і пытаюцца, ці ня бачылі яны каней.

— Не, кажуць, ня бачылі, бо мы сьляпыя, толькі вось чулі, што нешта тарахцела; мо' павадыр бачыў.

Запыталіся яны ў павадыра і пайшлі далей. А павадыр у дагон ім кажа:

— Не наракайце на нікога — трэба каней прывязаць, бо праўду кажуць людзі: „ня вер каню — ў дарозе, а жонцы — дома".

Узяў гэта Рыгор у галаву ідзе і ўсё думае:

— Ці-ж гэта праўда? Ці-ж і маей Матруне нельга верыць? Усе гавораць, як у бубен бьюць, а мо' і праўда?.. Трэба на ўсякае ліха і за Матрунай наглядаць...

Гэтак усенькую дарогу думаў Рыгор, пакуль не прывалокся да хаты. Зірнуў Рыгор пад павець, ажно кабыла ўжо там стаіць. Распрог ён яе, выпусьціў на пашу і сам пайшоў у хату. Матруна пытае, дзе ён быў, чаму кабыла сама прыбегла да хаты. Сказаў ёй Рыгор, у чым справа і ўсё паглядае на Матруну.

Пайшоў Рыгор даглядаць па гаспадарцы, але ўсё з галавы ня выходзіць тое, што казалі жабракі.

Настаў вечар. Падала Матруна на стол вячэру. Памыў Рыгор рукі, перажагнаўся і селі яны вячэраць.

Павячэралі, а Рыгор усё думае аб сваём.

Расперазаўся ён, зьняў каліту і лёг на падлогу адпачываць. Матруна тымчасам памыла гаршкі, распусьціла косы, распранулася і таксама лягла адпачываць.

Прыкінуўся Рыгор — нібы сьпіць, аж чуе: пайшла Матруна на двор.

Чакаў, чакаў Рыгор, — няма Матруны. Ну, думае, праўду казалі, — „ня вер каню ў дарозе, а жонцы дома".

Вось чуе — ідзе Матруна. Зноў прыкінуўся ён, што сьпіць. Паляжала трохі Матруна, паойкала і зноў пайшла на двор.

Толькі яна выйшла, устаў Рыгор з падлогі, зірнуў у вакно, аж Матруна пайшла на прыгуменьне.

Выйшаў ён ціханька з хаты і давай красьціся на прыгуменьне. Чуе, ажно там Матруна сьмяецца і з некім цалуецца. Падышоў ён бліжэй ды кажа:

— Ня вер каню!— ў дарозе, а жонцы — дома! — і давай лупцаваць то Матруну, то папа, які, відаць, даўно ўжо зьнюхаўся з Матрунай.

Дык вось якія жонкі.

*Апавядаў* **Я. Аземша.**



# НА „КРЭСАХ“.

Польскія паны, каб перацягнуць на сваю старану беларусаў пазакладалі ў найбольшых мястэчках Заходняй беларусі клюбы „Т-ва Апекі над „Крэсамі“.

(*З газэт*).



**Пан**: Ну, і дзікі народ гэтыя беларусы! Мы для іх клюб — чытальню залажылі і радыё правялі, але ніхто да нас ня прыходзе, а вось там...



...у цеснай хаце аж зямля трасецца пад іх нагамі. Дзікары, а не народ! — ані ня горнуцца да нашай культуры...

## БЫЎ ЗАНЯТЫ.

— Пане! Пане! Я бачыў учора, як пан абнімаў маю жонку.

— Даруйце, пане, але я быў гэтак заняты ў той мамэнт, што зусім вас не заўважыў.

## ДАКАЗАЎ.

— Але, здаецца, твая будучая жонка ня мае ўласных зубоў?

— Гэта няпраўда. Я сам на свае вочы бачыў, як яна аплачвала рахунак у дантыстага.

## ЗЬМЕНА ПРОЗЬВІШЧА.

Адна жанчына, якая няўмеючы пісаць, расьпісвалася трымя крыжыкамі. Апошні раз, як ёй трэба было расьпісацца ў гміне, паставіла замест крыжыкаў кружок на паперы.

Зьдіўлены пісар пытае яе:

— Чаму гэта вы перамянілі свой подпіс?

— Бачыце, я зьмяніла ўжо сваё прозьвішча, бо другі раз выйшла замуж.

## СЛУЖБІСТЫ.

З вакна ўяжджаючага на станцыю цягніка плюнуў пасажыр і папаў на шапку урадоўцу чыгункі.

— Ваша шчасьце, — адказвае той, што вы плюнулі на мяне, а не на тор, а то яшчэ б штраф заплацілі.

## РАЗГАВАРЫЛІСЯ.

*Школьны інспэктар*: Колькі, пане, маеце дзеці?

*Настаўнік*: Шесьцьдзесят пяць.

*Інспэктар*: Як! сам адзін?..

*Настаўнік*: Не, маю да гэтага памошніка.

## БЯДА.

— Як муж пані, ці здароў?

— Здароў, але мае клопат з жыватом.

— Што, можа, ня можа есьці?

— Вось у тым і бяда, што есьці можа, але няма чаго.

## У ШАЎЦА.

— Як ваш інтэрас, куме?

— А нічога сабе, добра. Нядаўна зарабіў трыццаць злотых.

— Адразу?

— Але.

— Якім спосабам?

— Адзін малады чалавек хацеў узяць у крэдыт пару чаравікаў, а я яму ня даў...

## У ШПІТАЛІ.

*Доктар*: Колькі хворых памёрла праз гэту ноч?

*Санітарка*: Чатырох.

*Доктар*: Чатырох? А я запісаў лякарства для пяцёх...

*Санітарка*: Але адзін ня прыняў лякарства і... астаўся жыў.

# Агітатар.

Дыякан Касавокі сярдзіта адкінаў прэч газэту і сумна ўздыхнуў.

— Што, ці не пра „Грамаду“ зноў пішуць? — зацікавілася дыяканіха.

— Хужэй... — адазваўся дыякан: пра радыю пішуць. А радыя гэта, маці, такая штука... Такая штука... Адным словам, злаўрэдная рэч.

— А што-ж гэта такое, казяўка якая небудзь, або новая цяжкая хвароба?

— Плапарат і рэч такая, — паясьніў дыякан, — але сілу вялікую мае і на чортава спакушэньне падобнае. Напрыклад, пастаяць мужычкі нашы гэтую самую радыю і без усялякага дроту могуць з кім хочуць гаварыць, хоць з самым царом турэцкім. Скажам, бабахнуць гэтак, прыкладам, праз радыю да архірэя: такі-сякі дыякан Касавокі хабарнік і самагоншчык, які разам з папом за трэбы з сялянаў дзярэць. А калі са сьвечкамі (стрэльбамі) павядуць — разьбірайся пасьля, даказвай, што ты не вінават і самагон не праз меру ўжываеш. І вось чуе маё сэрца, што нашы мужычкі радыю гэту абавязкава ў Народным Доме пастаўляць. Бібліатэку - чытальню адчынілі, коопэратыву залажылі і радыю, ох, гэту праклятую радыю ўстрояць. А тагды — і нам і панам і крамнікам — крышка!

Ах, Госпадзі — пужліва прамарматала дзьяканіха: ці-ж гэта праклятае рыдыё будзе? Бяз дроту, кажаш? І ўсюды чуваць? Проста чортава спакушэньне!

Некалькі мінут абодва сядзелі моўчкі. Урэшце, дыякан схапіў капялюш і сказаў: — Пайду, маці! Меры трэба загадзя прынімаць проціў радыі. Агітацыю сярод мужыкоў распаўсюджваць, вось што. Можа і міне наша мястэчка ліха гэта.

---

Дыякан хадзіў па вёсках з хаты ў хату і ўсюды аратарстваваў:

— Чыталі, вось, газэты, што? Усюды пра радыю пішуць. А радыя гэта шкодная штука, нешта ў вобразе чартоўскага спакушэньня.

Тэлеграп, тэлефон, электрычнасьць — гэта рэчы навучныя, там словы і токі розныя па дратах куды хочаш бегаюць. А тут — бяз усякага дроту. Паставіў плапарат і хоць з самім амэрыканцам гутарку разводзі. А ў прыпадку якіх непарадкаў у мястэчку — проста праз адну - аднюткую мінютку можна з начальствам лучнасьць мець. І ўсякія раманцы, канцэрты, і прамовы за тысячы вёрстаў чуваць. Ну, самі падумайце, ці-ж гэта не чартоўская рэч. І, галоўнае бяз дроту. Вось, напрыклад, стану я ў канцы мястэчка і айца нашага з ўсей сілы аблаю, — ці-ж ён пачуе калі бяз дроту, а ён на другім канцы жывець? Галаву далоў, што не пачуе! А праз радыю пачуе. Проста чартоўскія цуды!

— Пэўне-ж цуды! — уздыхалі бабы.

— Бач, ты! Бяз дроту, кажаш, а за тысячу вёрст чуваць? Здарова-ж нехта прыдумаў! — дзівіліся сяляне.

— Ой-ей, яшчэ як здорова! — заканчываў сваю мову дыякан. Пра гэту радыю вы добра пакумекайце паміж сабой. Дзеля таго, — што проста спакушэньне!

Сяляне праз увесь час толькі і казалі што пра радыё, а дыякан імчаўся далей.

Праз два дні дыякан убачыў праходзячага міма знаёмага крамніка.

— Эй, кум! — клікнуў ён яго: — чаго галаву павесіў. Ці не з пастарунку ідзеш?

— На сходзе быў, — панура адазваўся крамнік: мужычкі кружок радыё-аматараў пастанавілі арганізаваць і плапарат выпісаць.

— Як так? — крыкнуў зьдзіўлена дыякан: — ой, чула маё сэрца! Хто-ж іх нагаварыў?

— Як быццым ня знаеш! — скоса ўсьміхнуўся крамнік: — твая міласьць, вось хто. На сходзе мужычкі баілі, — кажуць, дыякан нам радыяй ўсе вушы пратрубіў. Гэтакую агітацыю разьвёў, што толькі любавацца! Калі-б, кажуць, ня дыякан, дзякуй яму, мы па сваёй цемнаце не дадумаліся-б.

Дыякан утапіў абедзьве пяцярні ў сваіх густых валасох, рвануў і кінуў на мокрую яшчэ зямлю...

*Н. А. К.*

**ПАЦЕХА.**

Муж апавядае паміж таварышамі сваю трагэдыю:

— І пайміце сабе, што за падласьць! Здраджвае мяне і то да гэтага ў маей уласнай хаце.

Адзін з таварышаў пацяшае:

— Бачыш... ня маеш чаго вельмі крыўдавацца. Для цябе самога было-б горай, якбы твая жонка кампрамітавала цябе па танных готэлях.

**„Зиз“.**





## Ах! Каб ня цёшча...

Вясна. У сэрцы штосьць казыча.
Душа гарыць, кагосьці кліча —
Жаніцца трэ', аёй, жаніцца!

А Тэкля, Тэкля, — гэта-ж дзіва!
— Як слівачка... і сарамліва...
Аж жар бярэ...

На цёшчу мілую як гляну,
І ў халад б'е і сэрцам вяну, —
Аж цёмна робіцца ў вачу...
Ці тут сядаць, ці тут маліцца,
А мо' ўцячы? — а тут хачу, —
Вясна пячэ, — хачу жаніцца!...

**М. Васілёк**

# Пан Міністар Залескі выбіраецца ў... Маскву.

(*Гістарычная байка з малюнкамі*).



Пасварыўся паляк з бальшавіком і кажа: „Буду рабіць усе, што змагу, каб толькі цябе, бальшавіча, зьвесьці са сьвету.



Вось ідзе паляк да Францыі, нізка кланяецца ёй і цалуе ручку. Але ня доўга было іх каханьне: сёньня ўжо Францыя з немцам цалуецца.



Ідзе тагды паляк да Чэмбэрлэна. Хітры англік, як ліс, ужо пасткі свае настаўляе. Толькі вось, бадай яго ліха...




... там у Кітаі дасталося ангельцу па... карку. Уцякае ангелец да хаты, пакуль яшчэ костачкі цэлы.




А тут, красуні на ўсход свае ручанькі цягнуць. Сьціснуў плячамі горды паляк і кажа:




— „Хто з абмежнікам ня сварыцца, — ў таго капа хлеба прыбавіцца“. І... вось, як пісалі газэты, п. міністар Залескі выбіраецца ў Маскву...

## НАША ПОШТА.

Жадаючы ўсім нашым паважаным падпішчыкам весела і радасна праводзіць вялікодныя сьвяты, просім незабывацца аб нас і пашыраць нашу „Маланку“ сярод сваіх сваякоў і знаёмых. Заахвочвайце новых падпішчыкаў і запісвайце іх на конкурсныя лісты „Маланкі“.

Нас паведамляюць, што пры апошніх рэвізыях паліцыя забірала ад сялянаў нумары „Маланкі і да гэтай пары не зварачвае.

Паясьняем: „Маланка“ выходзіць з дазволу ўлады і ніхто ня мае права яе адбіраць ад падпішчыкаў. Пішыце скаргі на паліцыю і дамагайцеся звароту сваей роднай часопісі.

**Шпаку Восаўскаму, Ю. Сергіевічу, К. Сьветавастокаву, К. Рагойшу, П. Забубенцу, Я. Мялліку і Міласэрднаму**: Вашы творы (вершы, жарты і апавяданьні) атрымалі, — дзякуем. За нястачай месца, будзём карыстаць у наступным нумары.

**Вясёламу**: Вы прыслалі нам свае вершы і пішаце, што можаце прысылаць нам па дзесяць гэтакіх вершаў у дзень. Вельмі Вам дзякуем, але прысылаць ня радзім, бо ў нас ёсьць такая машынка, якая па дзьвесьце гэтакіх вершаў, як Вашы, зьніштажае ў дзень.

## Новыя выданьні.

### МОНОГРАМЫ

да вышываньня крыжыкамі ў двох колерах, **ужо вышла з друку** накладам В—ва „Русалка“ (Lwów, вул. Куркова, ч. 10) і прадаецца па **6** (шэсць) злотых за адзін альбом, у якім зьмяшчаецца 330 монограмаў (ўсе магчымыя вязаньні літараў, так,што кожная асоба знай дзе там ініцыялы свайго прозьвішча).

Рэдактар **М. Луцэвіч**. — Выдавец: **Я. Маразовіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.

**Прыймаецца падпіска на найлепшую гумарыстычную часопісь**

# „МАЛАНКА“

== Выходзіць два разы ў месяц. ==

У „МАЛАНЦЫ“ супрацоўнічаюць найлепшыя літэратурныя і мастацкія сілы Заходняй Беларусі.

У „МАЛАНЦЫ“ зьмяшчаюцца найцікавейшыя, найсьмяшнейшыя жарты, карыкатуры, вершы, сатыры.

„МАЛАНКА“ друкуецца на добрай паперы з вялікай колькасьцяй рысункаў.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

На год—8 зл., на паўгода—4 зл., на тры месяцы—2 зл.

За граніцу на год—2 даляры і на паўгода—1 даляр.

Рэдакцыя „МАЛАНКА“, ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул. № 4.

ЦАНА КАМПЛЕКТУ — 2 зл. 70 гр. (з паштов. перасылкай) — ТРЫ ЗЛОТЫХ.